ПУЛЬС

## Прыгажосцю занялося Міністэрства культуры

Пачалася падрыхтоўка да IV Нацыянальнага конкурсу прыгажосці, які праводзіцца Міністэрствам культуры, Мінадукацыі, Белтэлерадыёкампаніяй і Беларускім рэспубліканскім саюзам моладзі (БРСМ) пры падтрымцы спецыяльнага фонду прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. У склад камітэта ўваходзяць міністр культуры Леанід Гуляка (старшыня), першы сакратар БРСМ Міхаіл Орда, міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў, старшыня Белтэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў, першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, дырэктар — мастацкі кіраўнік дзяржаўнай установы "Нацыянальная школа прыгажосці" Вольга Сярожнікова і іншыя.

Да ўдзелу ў конкурсе дапускаюцца асобы жаночага полу, незалежна ад месца вучобы і працы, якія пастаянна пражываюць у Беларусі, ва ўзросце ад 17 да 25 гадоў уключна, ростам не ніжэй за 168 см, якія маюць добрыя знешнія дадзеныя.

Праграма конкурсу ўключае ў сябе: дэманстрацыю вячэрняга аддзення, касцюма ў народным стылі, закрытага купальнага і маладзёжнага касцюмаў.

## Дудараў судзіцца з «Беларусьфільмам»

У Вярхоўным судзе Беларусі адбылося пасяджэнне па іску старшыні Саюза тэатральных дзеячаў драматурга Аляксея Дударава да Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм".

Даючы тлумачэнні сутнасці іску, Аляксей Дудараў паведаміў БелаПАН, што "закон аб аўтарскім праве і сумежных правах прадастаўляе аўтарам твораў, фільмаў права на аўтарскае ўзнагароджанне за кожны від выкарыстанага твору". "А кінастудыя "Беларусьфільм" гэтае права не прызнае", — заявіў драматург. Паводле слоў А.Дударава, за камерцыйнае выкарыстанне мастацкай карціны "Белые росы" пасля 1996 года (калі ў краіне быў прыняты закон "Аб аўтарскім праве"), якая была знятая паводле яго сцэнарыя, ён патрабуе, каб кінастудыя "Беларусьфільм" выплаціла яму 310 базавых велічынь (каля 2500 долараў ЗША).

А.Дудараў ужо выйграваў некалькі судовых працэсаў, звязаных з назвай "Белыя росы". Паводле слоў драматурга, "назву "Белыя росы", якая з'яўляецца арыгінальнай і ахоўваецца законам", выкарыстоўвалі Гродзенскі лікёра-гарэлачны завод, што выпускаў гарэлку, і Першая мінская птушкафабрыка, што адкрыла сетку магазінаў.

Чарговае пасяджэнне суда запланавана на сёння, 12 лютага.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## ГА ТБМ заклікае адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" заклікае грамадзян краіны годна адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы.

У звароце ТБМ да грамадзян Беларусі гаворыцца, што 21 лютага, па ініцыятыве ЮНЕСКА, ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. "Мы святкуем яго таму, што родная мова і стаўленне да яе — гэта паказчык маральнасці чалавека і яго душы. Родная мова — аснова светаўспрымання: яна звязвае паміж сабою былое, сучаснасць і будучыню. Захаванне роднай мовы садзейнічае ўстойліваму развіццю асобы. Са знікненнем любой мовы людзі губляюць часцінку нашага агульначалавечага багацця і культурнай разнастайнасці", — гаворыцца ў звароце.

Яго аўтары падкрэсліваюць, што "ў нашай краіне склалася трывожная сітуацыя з беларускай мовай. Пры моўна-культурнай экспансіі расійскага народа беларуская мова фактычна адкінута на перыферыю і не займае належнага ёй месца мовы тытульнай нацыі. Ад гэтага церпяць іншыя моўныя і культурныя супольнасці Беларусі".

**Марат ГАРАВЫ.**

## «БДГ» і «Intex-Press» атрымалі нямецкую прэмію

Галоўны рэдактар "Белорусской деловой газеты" Святлана Калінкіна і рэдакцыя баранавіцкай газеты "Intex-Press" сталі лаўрэатамі прэміі імя Герда Буцэрыуса "Маладая прэса Усходняй Еўропы" за 2003 год. Афіцыйнае ўручэнне прэміі адбудзецца 19 мая ў Гамбургу.

Як паведаміла БелаПАН С.Калінкіна, рашэнне фонду "Zeit", які з'яўляецца заснавальнікам прэміі, было для яе нечаканасцю: "Летась наш зямляк Мікалай Маркевіч ужо ўдастойваўся згаданай узнагароды, і ў тым, што лаўрэатам прэміі зноў стане журналіст з Беларусі, былі вялікія сумненні. Аднак гэта здарылася". У той жа час, паводле слоў С.Калінкінай, самым прыемным было не столькі паведамленне аб прэміі, колькі адносіны калег. "Рашэнне аб вылучэнні на прэмію было рашэннем Беларускай асацыяцыі журналістаў, і яно было прынята аднагалосна".

## «Дзень кахання» адменены

Мінгарвыканкам адмовіў актывістам незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" (МФ) Змітру Дашкевічу і Артуру Фінькевічу ў дазволе на правядзенне 14 лютага ў Мінску акцыі "Дзень кахання".

Паводле слоў З.Дашкевіча, асноўнай прычынай адмовы стала няправільнае запаўненне заяўкі на правядзенне масавай акцыі.

Нагадаем, што актывісты "Маладога фронту" прасілі гарвыканкам дазволіць ім сабрацца 14 лютага а 12-й гадзіне на плошчы Свабоды. Заявачная колькасць удзельнікаў — 50 чалавек. Арганізатары збіраліся сумясціць вулічнае шэсце па цэнтральных вуліцах Мінска з абходам пасольстваў замежных дзяржаў і віншаваннем еўрапейскіх народаў з Днём святога Валянціна.

Нягледзячы на забарону ўлад, акцыя адбудзецца, сцвярджаюць у МФ. Узначаліць яе Павел Севярынец, для якога Дзень кахання, па яго ўласным выказванні, стане "дэмбельскім акордам" на пасадзе кіраўніка "Маладога фронту".

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Праваронілі...

### *Чаму не ўсе ў Беларусі атрымалі кампенсацыю за рабскую працу на фашыстаў*

*Вялікая Айчынная зноў напомніла аб сабе. Не толькі юбілеямі, дэманстрацыямі, кветкамі. Не гімнасцёркамі ў медалях, не маршчынкамі на тварах. Вайна матэрыяльна ўдарыла па сваіх ахвярах. У апошнія месяцы абвастрылася дзяльба кампенсацый.*

*Нагадаем, што ў жніўні 2000 года ў Германіі быў створаны фонд "Памяць, адказнасць і будучыня". Галоўная мэта фонду — хуткая фінансавая дапамога былым падняволеным работнікам, іншым ахвярам фашызму. Тым, каго вывезлі на працу ў Германію і Аўстрыю, грошы давалі і раней, у дзевяностых. Людзі, якія пацярпелі ад захопнікаў на тэрыторыі Беларусі, павінны былі атрымаць кампенсацыю ўпершыню.*



*Вайна, бежанцы.*

Дзяліць грошы даверылі мясцовым чыноўнікам, якія таксама стварылі фонд — "Узаемаразуменне і прымірэнне". Чыноўнікі селі за стол і пачалі вылічаць: хто на колькі напакутаваў. Каму даць тысячу еўра, каму — тры. А каму ... нічога.

Ахвяраў вайны прымусілі ўспамінаць пра рабства, здзекі, бежанствы. Шукаць сведкаў, даказваць. І чакаць чыноўніцкай міласці. На жаль, дачакаліся не ўсе. Сярод пакрыўджаных — **Гузава Таццяна Фамінічна**, сведка вайны. У сорак першым ёй было шаснаццаць. Вайну Таццяна Фамінічна сустрэла ў вёсцы Галавічы, што ў Горацкім раёне(зараз — Дрыбінскі). Вось яе расказ:

— У сорак трэцім годзе мы пачулі: немцы адступаюць. Курская дуга. З таго часу яны і пабеглі. І прыбеглі ў Галавічы.

У нашу хату пасялілі пяць немцаў, лёгкапараненых. Стварылі медсанбат. Яны добрыя немцы былі. Асабліва адзін запомніўся, паказваў нам фотаздымкі. Кажа: "Вось я працую на лесапільнай фабрыцы. Жонка ў мяне, два сыны. Мы працуем, вы працуеце. Чаму так атрымалася? Нам жа вайна не патрэбна. Хай Сталін з Гітлерам б'юцца. Дык не, нас пад кулі падстаўляюць." Немец так казаў. "А то ж, навошта нам вайна?" — адказваў з печы дзед.

Давалі ім пайкі добрыя, шакалад, шампанскае. Ён возьме, шакалад нам, дзецям, дасць, а шампанскае з дзедам вып'е. Месяца паўтара стаялі ў нас гэтыя немцы. Павылечвалі іх — і пагналі на фронт.

Памятаю, зайшоў да нас фін. Высокі, прыгожы. Спадабалася яму мая сястра. Прыстаў: "Хадзі да нас, на кухню, ежу варыць". Схавалі яе на ноч, а потым тых фінаў далей пагналі.

Хадзілі мы ўжо ў гэты час траншэі капаць. Першая лінія ішла каля нашага дома, каля Проні, рэчкі. Другая лінія была за вёскай. Капалі пад канвоем немцаў, паліцаям яны не давяралі. Немец ходзіць: "Шнэль, шнэль, шнэль". Кнут трымае: сцёб таго, хто стаіць, і пайшоў далей.

Прайшоў тыдзень, калі мы тыя акопы выкапалі. Чуем: страляюць ужо за Проняй. Кананада. Самалёты нашы бамбяць ужо з гэтага боку, каля вескі, бомбы падаюць. Адна хата загарэлася. Вечарам усе сабраліся, ведалі, што каля вёскі будзе нямецкая перадавая. Вырашылі: трэба ўцякаць.

Мы ўзялі карову, трошкі сала, хлеб, рэчы цёплыя, бо зіма хутка. Усё іншае ў нас было закапана раней, адчувалі, што прыйдзецца бегчы. У хляве, дзе карова стаяла, гной паднялі і закапалі бочку з пшаніцай, сала. Схавалі сундук з адзежай. Веласіпед — і той бабка мая закапала. Усе людзі так рабілі, не толькі мы.

Уцякалі хто куды. Уся вёска апусцела. За два кіламетры ад вёскі былі равы, ярамі іх звалі. Там рос арэшнік, туды заўсёды за арэхамі хадзілі. Вось мы паехалі ў тыя равы хавацца.

Уся вёска ў тых равах была. Паставілі падводы, сядзелі пад кустамі. Коні там пасвіліся, карова. Нашы бамбілі, але ў роў не трапілі. Адна дзяўчына з рова выйшла, пайшла пад лес. Яе адразу немцы забілі. Думалі, што партызанка. У тым жа лесе семнаццаць мужыкоў забілі. Хадзілі і крычалі: "Партызан, партызан!". Стралялі ва ўсіх. Нам пашанцавала.

Дзень сядзім у тым рове. Немцы праводзяць правады свае, рацыю. Праз роў цягнуць, каля нас, і ўвагі не звяртаюць.

Раніцай зноў прыйшлі. Разматваюць. Мы ціхенька сабе радуемся: немцы адступаюць, мы застаёмся на месцы. Але ж, напэўна, дачасна радаваліся. У той жа дзень нас сабралі і сказалі: "Авэк!" Пастроілі ў калону, вывелі на дарогу і пад канвоем з немцаў і паліцаяў пагналі на Магілёў. Дарослыя ішлі пехам, а дзеці ехалі на возе.

З Магілёва нас накіравалі на Шклоў. Дайшлі да вёскі Александрыя. Туды нас і загналі, там жылі каля месяца.

У Александрыі немцы забралі нашу карову, усіх перапісалі, не дазвалялі выходзіць з вёскі. З Галавіч нас было сем сем'яў.

Зноў у калоне. Пагналі на Коханава, станцыю за Оршай. Там пагрузілі ў таварняк. У глухім вагоне ехалі праз Мінск на Баранавічы. Не дазвалялі выходзіць у туалет. Спяшаліся немцы, адступалі.

Прыехалі. Зноў пастроілі ўсіх. Пад канвоем пагналі ў лагер Лясная. Гэта недзе каля Баранавіч.

Агароджа з калючага дроту, вялізная брама з вартавымі — як зараз бачу той лагер. Ліў дождж. Шмат там ужо было народу. Некалькі баракаў, навесы, пад якімі мы і сядзелі. У нас усіх тады ужо была кароста, вошай было — мора. На мне была кофтачка такая бардовая. Як адхіну складку — яны сядзяць ланцужком. Раз — і ў вогнішча іх, толькі "трэсь, трэсь, трэсь" — як чарга з аўтамата.

Маму з малым братам адвялі ў барак. Яна як зайшла — тыя вошы толькі трашчаць пад нагамі. Вярнулася да нас, пад навес. Так мы сядзелі каля месяца. Адбывалі, як казалі немцы, каранцін. Яны вельмі тыфусу баяліся. Кармілі нас адзін раз у дзень. На трох чалавек давалі "кірпіч" — хлеб з апілкамі, чарпак баланды і каву з ячменю.

Каранцін скончыўся, і немцы па спісках сталі адбіраць працаздольных, каб адправіць у Германію. Мне было ўжо васемнаццаць гадоў, якраз маглі ўзяць.

Выпускалі ўсіх з лагера і аглядалі каля брамы. Сястру маю, Маню, закрылі анучамі, адзежай старой. На мяне надзелі кажух, завязалі хустку, на рукі пасадзілі маленькую сястрычку стрыечную. Пад'язджаем да немца, а яна крычыць: "Мамачка, міленькая! Баюся..." Прайшлі мы так праз агляд. У Германію не трапілі. Паслалі нас у вёску Дамашы працаваць.

Есці не было чаго. Жабравалі. Людзі мала што давалі: надакучылі бежанцы. У Дамашах завялі ў школу. Стараста загадаў людзям браць нас па хатах. Усіх разбіраюць — мяне ніхто не бярэ. Я страшная, худая... Трапіла нарэшце да краўца Алеся. Добры быў чалавек. Ткала для іх кросны, днямі працавала, адносіліся па-людску.

У Дамашах сустрэлі нашых. Два дні сядзелі ў склепе, перачакалі бойку. Немцы адышлі — і мы сталі збірацца ў родную вёску. Ехалі праз Старыя Дарогі, лесам. У лесе сустрэлі партызан. "Паліцаі, паліцаі", — крычалі на нас. Забралі каня.

Прыехалі ў Галавічы — усе вяскоўцы ужо там. Мы апошнія. Ніводнай хаты не засталося. Усе згарэлі. Дзе толькі печ руская чарнела, дзе слупок які. Ні платоў, ні дрэваў. А было больш за сто двароў.

Адкапалі пшаніцу, сала. Бабка нават веласіпед адкапала. Трохі было што паесці. На двары нашым немцы бункер зрабілі. Там і зімавалі. Уся вёска зіму ў такіх бункерах сустрэла, было іх шмат.

Першая лінія фронту стаяла каля вёскі дзевяць месяцаў. Усё навокал было замініравана. Пакуль мы прыехалі, чалавек восем ужо падарваліся. Маладая жанчына пайшла мыцца да Проні, якраз насупраць нашай хаты. На міну ступіла — адарвала нагу. Памерла. Мужык знайшоў гранату, хацеў рыбу глушыць у рэчцы. Парвала на шматкі. Так і пахавалі. Руку вясной толькі ў Проні вылавілі...

* * *

Кампенсацыю за пакуты Таццяна Фамінічна не атрымала. Не атрымаў нямецкіх еўра ніхто з вёскі Галавічы, якую цалкам спалілі немцы. Жыхары яе пад прымусам капалі акопы, сталі бежанцамі. "Празявалі, — упікнулі ахвяраў вайны чыноўнікі, — трэба было чытаць "Рэспубліку". Там усё напісана..."

Справа ў тым, што апошні тэрмін, калі можна было падаць заяўку на кампенсацыю, скончыўся. "Пасля 31 студзеня 2001 года прэтэндэнт губляе права на атрыманне кампенсацыі" — так патрабуе нямецкі закон. Не ведалі? Ваша праблема.

Жыхары суседніх з Галавічамі вёсак кампенсацыю атрымалі. Чыталі газеты? "Сельсавет, напэўна, дапамог. У час вайны наша вёска належала да Карэбскага сельсавета. З усіх навакольных вёсак згарэла толькі яна. Потым Галавічы перавялі ў сельсавет Першамайскі. Мабыць, калі пачалі выдаваць грошы, па старой памяці Галавічы палічылі "карэбскімі". Не пацярпеўшымі. Таму і не далі нічога. Не ўнеслі нас у спіс. — Так мяркуе Таццяна Фамінічна. — Далі б усім пароўну. Хоць па сто еўра. А так, ім усё — нам нічога".

Пунктуальныя немцы закон не адменяць. Ды і не думалі яны, напэўна, што ў краіне, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, людзі пазбаўлены інфармацыі. Што нехта можа пра іх фонд не ведаць. Што нехта не паспее падаць заяву. І што чыноўнікі ў гэтай краіне — такія фармалісты.

Беларускія партнёры нямецкай арганізацыі — фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне" — нічым пацярпеўшым дапамагчы не можа. Тэрмін выйшаў. Людзі пішуць у фонд пісьмы. А ім раюць чытаць газеты. "Пайшоў ваш цягнік", — адказаў па тэлефоне адзін з кіраўнікоў.

Калі баяры злыя, людзі спадзяюцца на добрага цара. Хто не атрымаў кампенсацыю, пачалі пісаць у Адміністрацыю прэзідэнта. "Звяртайцеся ў фонд", — атрымалі адказ.

Пішуць і пішуць скаргі і заявы галавічане. Вось зараз — у нямецкае пасольства. Пішуць, пакуль яшчэ жывыя. "Праваранілі свае грошы" — чуюць чыноўніцкі адказ, падобны на здзек.

Чыноўнікі зноў праваронілі чалавека.

**Мікола КАЗЛОВІЧ.**

КОНФЛИКТ

## «Покажите разрешение на голодовку»

### *С таким вот идиотским требованием обратились милиционеры к голодающим витебским предпринимателям*

Впрочем, не стоит заострять внимание на наших стражах порядка, оказавшихся до минувшей субботы единственными представителями власти, которые хоть таким образом, но пообщались с доведенными до отчаяния людьми.

Напомним, 2 февраля индивидуальные предприниматели ряда витебских рынков объявили бессрочную забастовку с голодовкой, которая продолжается до сих пор. Лишь на первый взгляд все произошло стихийно. На самом деле к такому шагу представителей малого бизнеса власти подталкивали несколько лет.

— Сначала нас с открытых рынков стали вытеснять на крытые, — рассказывает одна из голодающих предприниматель Лариса, работающая на рынке "Петровский". — Мы купили кассовые аппараты, более тысячи долларов каждый потратил на оборудование торговых мест, открыли расчетные счета, получили лицензии. У меня лицензия — до 2008 года. Потом нам заявили, что меняется статус рынков, сейчас их надо называть торговыми центрами и вновь получать лицензию. Теперь по решению властей наша работа должна усложниться до предела...

Предпринимателей обязывают иметь на товары сертификаты качества и проходить гигиеническую регистрацию, плюс к этому — ввозимые из России товары необходимо будет растаможивать. Все эти процедуры не только хлопотны, но и затратны, что скажется на цене. Стоимость товаров вырастет как минимум вдвое. Более того, ретивые витебские чиновники не просто выполняют волю вышестоящей власти, но еще и экспериментируют.

— Нам ставят условие, — продолжает Лариса, — чтобы наш товарооборот на 70 процентов осуществлялся белорусской продукцией, которую мы должны приобретать по отпускным ценам, что нереально.

Но даже не этот прессинг, не изменение правил игры в бизнес по-белорусски стали причиной забастовки, а хитроумная ложь чиновников.

28 января предприниматели в качестве протеста намеревались не заплатить налог. Зампред горисполкома Яровиков и начальник отдела торговли Левкович сообщили им, что никаких изменений не будет, мол, "работайте спокойно". Налог предприниматели заплатили, банки даже на два часа продлили свой рабочий день, а 1 февраля обманутых предпринимателей поставили перед фактом: работать надо по новым правилам. Это и стало последней каплей, переполнившей чашу терпения.

Голодающие предприниматели, их около тридцати человек, обосновались на рынке "Мишель". Роль посредника в переговорах с властями взял на себя профсоюз "Перспектива", ибо никто из чиновников до минувшей субботы не удосужился встретиться с людьми.

6 февраля в Витебск приехал академик Александр Войтович. "Чем вы нам можете помочь?" — спрашивали у него бастующие. Александр Павлович обещал юридическую помощь, и ему удалось по телефону побеседовать с главой Администрации Витебской области Владимиром Андрейченко. В беседе губернатор обрисовал ситуацию и сообщил о некоторых послаблениях, в частности, о том, что сертификация товаров будет проводиться по упрощенной схеме, что у предпринимателей до 1 мая есть время получить лицензии. Других послаблений не предвидится. Эту малоутешительную информацию Александр Войтович передал бастующим.

В субботу с голодающими втречались представители ОБСЕ. После их отъезда к рынку "Мишель" потянулись служебные машины витебских чиновников. Разговора не получилось.

"Мы сложили с себя полномочия посредников в переговорах, — сообщил журналисту "Народной воли" председатель Витебского городского профсоюза предпринимателей Анатолий Шаповалов. — Случилось это после того, как вице-мэр Николайкин отказался от встречи. Да и что можно ожидать от этих людей, если они не стесняются в глаза говорить: "Мне безразличны ваши голодовки, для меня главное — товарооборот области..."

Профсоюзный лидер присоединился к голодающим предпринимателям: "Мы будем голодать до тех пор, пока наши требования не выполнят. Мы не имеем морального права отступать".

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

**P.S.** *В беседе с председателем Витебского облисполкома академик Александр Войтович просил воздержаться от преследований предпринимателей. Похоже, просьбу известного ученого господин Андрейченко не услышал. 8 февраля была предпринята попытка арестовать директора рынка "Мишель", благодаря вмешательству коллег этого пока не случилось. В адрес руководителей рынков "Европа", "Привокзальный" и других звучат угрозы применить различные санкции.*

ЭКСПЕРТИЗА

# Дайте же стране расправить мускулы!

*В минувшее воскресенье президент белорусского НОКа оказался в нужное время в нужном месте. Александр Лукашенко снял полновесный политический урожай с теннисного корта, на котором наши мастера сенсационно повергли в прах российских асов, уже мысленно положивших в карман победу.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Официальный белорусский лидер прекрасно использует древнюю формулу, согласно которой народ жаждет хлеба и зрелищ. Он "дает людям" (так у нас называют "кормимых" рядовых граждан в отличие от "кормящего" начальства) возможность бесперебойно кушать хлеб. В том смысле, что время от времени эффектно лупцует своих сановников, дабы не слишком "задирали" цены. И он же, официальный лидер, дает массе зрелища. В воскресенье под сводами переоборудованного под кубок Дэвиса столичного футбольного манежа творилась — отдадим должное, достаточно вдохновенно — картина невиданного национального триумфа, достигнутого под мудрым руководством. Так в Отечественную добытые солдатами победы подверстывались под имя генералиссимуса, превращались в знаменитые "десять сталинских ударов" и прочие вещи, которые ныне принято называть пиаром.

В принципе с точки зрения политтехнологии под куполом футбольного манежа в минувшее воскресенье все делалось логично и четко. Как отметил в интервью для "Белорусских новостей" политолог **Виталий Силицкий, "на стадион ходят и короли, и демократические президенты. Любая власть пытается прилепиться к спорту — это самый выгодный пиар. При этом, надо заметить, часть отечественных оппозиционеров страдает тем, что я называю комплексом советского диссидентства. Видеть ситуацию исключительно в духе тезиса "спорт — оружие тоталитаризма" значит видеть не всю правду".**

Как пример того, что оппозиционность можно довести до абсурда, Виталий Силицкий упомянул одного знакомого из числа оппонентов власти. Тот перед выборами 2001 года "специально" болел на футболе за украинцев, потому что выигрыш белорусов мог, дескать, поднять рейтинг Лукашенко. **"Оппозиции советую в массовом порядке купить билеты на четвертьфинал кубка Дэвиса**, — полушутя добавил политолог. — **И вообще чаще дружно ходить на стадионы, пусть ее лица ассоциируются с победами. Ведь суверенизация массового сознания идет в том числе и через спорт".**

Другое дело, заметим, что сегодня этот процесс протекает практически без участия тех, кто особенно громко ратует за независимое будущее Беларуси. **"А сегодня все процессы у нас идут без участия оппозиции**, — с улыбкой комментирует это обстоятельство Виталий Силицкий. — **В том числе и рост ее рейтинга"**. Конечно, добавляет он уже вполне серьезно, надо отдать должное — в свое время именно она, оппозиция, много сделала для внедрения в общество идей независимости.

В общем, хотят того власть предержащие или нет, — объективно триумф в матче против россиян, как и другие громкие спортивные победы международного масштаба, мощно работает на подспудное развитие национального самосознания. Пусть в день официального открытия этого, как выражались падкие на цветистость слога спортивные комментаторы, "славянского дерби" и прозвучали дежурные тезисы интеграционного толка — в итоге ведь царило осознание того, что **"мы"** все-таки доказали **"им"**, что кое-чего стоим. В этом море эмоций, упаси боже, не было ни капли ненависти к россиянам. Была гордость за белорусов.

По мнению политолога **Владимира Ровдо**, оппоненты власти многое теряют из-за того, что замыкаются на негативе. **"Продвижению их идей наверняка способствовало бы усиление положительного момента. Беларусь ведь имеет неоспоримые достижения не только в спорте. Если сравнивать с той же Россией — у нас гораздо больше шансов на вхождение в единую Европу. У нас достаточно образованный народ, не растеряны традиции трудолюбия (не в укор россиянам будь сказано), у нас масса квалифицированных специалистов. Другое дело, что этот потенциал в значительной степени не востребован".**

И многое тут, по словам политолога, упирается в недальновидную, ретроградскую политику белорусского руководства. **"Точнее сказать, власть нередко показывает тактическую гибкость,** — отмечает Владимир Ровдо, — **но абсолютно не сильна в стратегии".**

В свою очередь ее оппонентам, как полагает эксперт, не стоило бы все время акцентировать внимание на забитости, люмпенизации и маргинализации масс. Должен присутствовать некий вдохновляющий момент. Вместо нехитрого лозунга "все плохо!" куда перспективнее выбрать лейтмотивом мысль, что у нас хороший потенциал, что белорусский народ достоин лучшей участи. Причем достойную европейской нации жизнь можно построить не в туманном будущем, а в короткой исторической перспективе.

**"Это просто позорно, когда наша власть руками и ногами отпихивается от объединенной Европы, имея стартовые условия не хуже, чем, например, у литовцев, — резюмирует Владимир Ровдо. — Наш официальный лидер любит повторять, что белорусы никогда не предадут россиян. Но зачем же предавать самих себя, перечеркивать собственные национальные перспективы?".**

Стоит отметить еще один важный момент. Эксперты *"Белорусских новостей"* солидарны в том, что не стоит рассматривать перспективы страны сугубо в плоскости противостояния власти и оппозиции. Главные процессы вызревают в недрах общества. Становление гражданского общества идет у нас медленно и трудно. Но оно идет. И в этом главная надежда на то, что завтра Беларусь сможет в полной мере раскрыть свои возможности не только на спортивных аренах. Что будет — через реформы в экономике и политике — раскрепощен весь тот потенциал, вся та энергия народа, которую ныне власти стремятся канализировать в русло спортивных да околоспортивных страстей.

Дайте же стране расправить мускулы во всех смыслах!

*("Белорусские новости".)*

*Будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі не спыняецца.*

Фота ByMedia.net

## Книги не умеют кричать SOS!

Глубокоуважаемая редакция газеты "Народная воля"!

Вынужден обратиться к вам, чтобы привлечь внимание к бедственному положению Центральной библиотеки им.А.С.Пушкина в Мозыре.

Последние годы здесь постоянное "ЧП" — книгохранилище затапливается водой, подшивки многих газет и журналов уже никогда не возьмут в руки читатели. Книжный фонд — в крайне стесненных условиях. В течение многих лет руководство города никак не может перевести службу загса из библиотечного помещения в иное. И без того сокровищница знаний размещена в здании, которое изначально предназначалось для продуктового магазина. Денег не хватает даже на такую мелочь, как картонные обложки для хранения подшивок и журналов...

Сегодня бедность в стране не жалует и культуру. Но, однако, при всем этом немалые денежные средства находятся каким-то образом на всевозможные мероприятия увеселительного характера, которые, на мой взгляд, мало чего дают уму и сердцу.

Так, в 2001 году в нашем городе проходили "Дожинки". Перед их проведением было построено трехэтажное здание под горсобес. Но... это уважаемое заведение заняло только первый этаж. А почему бы не отдать остальные площади под библиотеку?

Причина бед нашей культуры, считаю, кроется в том, что ею нередко руководят малограмотные чиновники, а не глубоко образованные, культурные люди. Они и при решении кадровых вопросов ставят во главу скорее формально-номенклатурный подход, а не профессионализм и ответственность. Меж тем кому не ясно, что по состоянию библиотек можно судить в целом о самом обществе, его духовности и образованности. Если государство не заинтересовано, чтобы люди были интеллектуально богаты, то тогда в качестве витрины, всем миром и всеми средствами возводится Одна главная библиотека страны, которая, конечно же, очень нужна, но не в силах заменить сеть очагов культуры во всех уголках страны.

Я, читатель библиотеки, не могу быть спокойным, когда речь идет о спасении книжных ценностей. Если сейчас не принять действенных мер, то через 2—3 года город со своим населением 100-тысячным населением останется без книгохранилища, содержимое которого сплывет с водой. Книги не умеют кричать "SOS!", они просят сделать это тех, кто их любит...

С огромным уважением и надеждой —

**Александр Иванович ПРОКОПЧУК,**
**постоянный,**
**с 35-летним стажем,**
**читатель Центральной библиотеки г.Мозыря.**

КРИМИНАЛ

## В тюрьме им будет сниться алюминий и никель

Штабелеровщик Белорусского металлургического завода Сергей Ероцкий создал организованную группу, занимавшуюся хищением цветных металлов. Вдвоем с Сергеем Ринейским на автокаре последнего в ночное время подвозили похищенный металл к ограждению и перебрасывали на улицу. Там с микроавтобусом поджидали добычу Александр Москаленко и Сергей Асновин. Перевезенный в один из гаражей "Северного" ГСК, металл впоследствии сдавали в приемный пункт, прибыль делили между собой.

Всего за два месяца криминальный квартет похитил девять с половиной тонн алюминия и четыреста пятьдесят килограммов никеля.

В конце концов преступников задержали. Суд Жлобинского района приговорил организатора хищений к пяти, а его помощника-автокарщика к трем с половиной годам лишения свободы с содержанием в исправительной колонии усиленного режима.

Перевозчики похищенного заработали по три года изоляции от общества. Имущество осужденных, в том числе автомашины "Тайота" и "Мерседес", конфискованы в доход государства.

## Оборотень в погонах

Занимавшийся скупкой цветных металлов без надлежаще оформленной лицензии индивидуальный предприниматель попал в поле зрения теперь уже бывшего начальника отдела уголовного розыска Гомельского РОВД Сергея Евдохова. Тем не менее обнаруженный в автомашине незаконный груз остался у владельца — в обмен на 600 долларов. Впоследствии за "крышу" бизнесмен выплачивал сотруднику милиции ежемесячно от 50 до 100 "баксов".

Все было шито-крыто, пока на крючок не попался другой делец. Первоначальный "взнос" в те же 600 "зеленых" оказался неподъемным — пришлось нелегальному скупщику цветмета обращаться в другое силовое ведомство.

Задержания мздоимца проводилось по сценарию, почерпнутому из документальных съемок передачи "Дежурная часть" российского телеканала. Повязали, как говорится, с поличным.

Суд Гомельского района вынес вердикт — оборотню в погонах предстоит провести шесть с половиной лет в исправительной колонии усиленного режима. В течение пяти лет после отбытия срока заключения ему запрещено занимать должности на государственной службе. Имущество осужденного конфисковано в доход государства.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

